*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 3 (542) 16 СТУДЗЕНЯ 2002 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на першы квартал 2002 года. У гэтым квартале зменшылася ведамасная падпіска на нашу газету, але некальki вырасла індывідуальная. Мы маем на сёння 2262 падпісчыкі. Падпіскай на газету "Наша слова" закрыты большасць раёнаў Беларусі. Падпісана каля 700 вясковых бібліятэк. Падпісана вялікая колькасць менскіх бібліятэк. Падпісаны ўсе вышэйшыя і шэраг сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў краіны. Мы канстатуем, што нягледзячы на сур'ёзную працу Сакратарыяту ТБМ па арганізацыі падпіскі актыўнасць сяброў ТБМ застаецца невысокай. Мы звяртаем увагу кіраўнікоў усіх арганізацый на важнасць задачы распаўсюджання беларускага слова.

| | Кастрычнік | | | Студзень | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Інд. | Вед. | Разам. | Інд. | Вед. | Разам. |
| **Берасцейская вобласць:** | | | | | | |
| Баранавічы р.в | 20 | 1 | 21 | 19 | 1 | 20 |
| Бяроза р.в. | 2 | - | 2 | 3 | - | 3 |
| Белаазёрск р.в | 2 | - | 2 | 1 | - | 1 |
| Бярэсце гор. | 15 | 2 | 17 | 28 | 2 | 30 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | - | 1 | 2 | - | 2 |
| Драгічын р.в. | 1 | - | 1 | 2 | - | 2 |
| Жабінка р.в. | - | - | - | 1 | - | 1 |
| Іванава р.в. | - | - | - | - | - | - |
| Івацэвічы р.в | 1 | - | 1 | 8 | - | 8 |
| Камянец р.в. | 22 | - | 22 | 22 | - | 22 |
| Кобрын гор. | 15 | - | 15 | 12 | - | 12 |
| Лунінец гор. | 4 | - | 4 | 5 | - | 5 |
| Ляхавічы р.в. | 2 | - | 2 | 1 | - | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| Пінск гор. | 23 | - | 23 | 27 | - | 27 |
| Пружаны р.в. | 8 | - | 8 | 9 | - | 9 |
| Столін р.в. | 2 | 1 | 3 | 2 | - | 2 |
| **Усяго:** | **119** | **4** | **123** | **143** | **3** | **146** |
| **Віцебская вобласць:** | | | | | | |
| Бешанковічы р.в. | 3 | - | 3 | 3 | - | 2 |
| Браслаў р.в. | 2 | - | 2 | 2 | - | 1 |
| Віцебск гор. | 23 | 24 | 47 | 29 | 4 | 33 |
| Віцебск РВПС | 1 | - | 1 | 1 | - | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 30 | 34 | 7 | - | 7 |
| Глыбокае р.в. | 5 | - | 5 | 4 | - | 4 |
| Гарадок р.в. | 4 | 40 | 44 | 7 | - | 7 |
| Докшыцы р.в. | 6 | 31 | 37 | 3 | - | 3 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 29 | 31 | 2 | - | 2 |
| Ліёзна р.в. | 5 | 27 | 32 | 22 | - | 22 |
| Лепель р.в. | - | 32 | 32 | 1 | - | 1 |
| Міёры р.в. | 21 | 33 | 54 | 11 | - | 11 |
| Новаполацк гор. | 45 | 1 | 46 | 39 | 1 | 40 |
| Ворша гор. | 8 | - | 8 | 9 | - | 9 |
| Полацк гор. | 49 | 1 | 50 | 32 | 1 | 33 |
| Паставы р.в. | 7 | 41 | 48 | 5 | - | 5 |
| Расоны р.в. | - | 22 | 22 | - | - | - |
| Сянно р.в. | - | 35 | 35 | - | - | - |
| Талочын р.в. | - | 33 | 33 | 3 | - | 3 |
| Ушачы р.в. | - | 1 | 1 | 2 | - | 2 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 1 | 3 | 2 | - | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 11 | 2 | 13 | 9 | 1 | 10 |
| Шуміліна р.в. | 3 | 14 | 17 | 7 | - | 7 |
| **Усяго:** | **207** | **184** | **391** | **200** | **6** | **206** |
| **Менская вобласць:** | | | | | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 1 | 4 | 4 | 1 | 5 |
| Барысаў гор. | 10 | 2 | 12 | 7 | - | 7 |
| Вілейка гор. | 4 | 2 | 6 | 8 | - | 8 |
| Валожын гор. | 8 | 2 | 10 | 11 | 1 | 12 |
| Дзяржынск р.в. | 4 | 1 | 5 | 1 | - | 1 |
| Жодзіна гор. | 5 | 3 | 8 | 8 | - | 8 |
| Клецк р.в. | 2 | - | 2 | 3 | - | 3 |
| Крупкі р.в. | 2 | 1 | 3 | 3 | - | 3 |
| Капыль р.в. | 3 | 1 | 4 | 2 | - | 2 |
| Лагойск р.в. | 2 | 33 | 35 | 4 | - | 4 |
| Любань р.в. | 5 | 34 | 39 | 5 | 34 | 39 |
| Менск гор. | 411 | 73 | 484 | 447 | 69 | 516 |
| Менск РВПС | 12 | - | 12 | 16 | - | 16 |
| Маладэчна гор. | 20 | - | 20 | 19 | - | 19 |
| Мядзель р.в. | 9 | 2 | 11 | 6 | 2 | 8 |
| Пухавічы РВПС | 13 | - | 13 | 28 | - | 28 |
| Нясвіж р.в. | 4 | 17 | 21 | 4 | 17 | 21 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 1 | 2 | - | 1 | 1 |
| Слуцк гор. | 10 | 38 | 48 | 10 | 38 | 48 |
| Салігорск гор. | 4 | 34 | 38 | 6 | 34 | 40 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | 19 | 19 | 2 | - | 2 |
| Стоўбцы р.в. | 7 | - | 7 | 5 | - | 5 |
| Узда р.в. | 2 | 20 | 22 | 2 | - | 2 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 32 | 37 | 6 | - | 6 |
| **Усяго:** | **545** | **317** | **862** | **607** | **197** | **804** |

| | Кастрычнік | | | Студзень | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Інд. | Вед. | Разам. | Інд. | Вед. | Разам. |
| **Гомельская вобласць:** | | | | | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | - | 3 | 7 | - | 7 |
| Брагін р.в. | - | 36 | 36 | 1 | - | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| Гомель гор. | 49 | 5 | 54 | 93 | 4 | 97 |
| Гомель РВПС | 1 | - | - | - | - | 4 |
| Добруш р.в. | 2 | - | 2 | 2 | - | 4 |
| Ельск р.в. | - | 19 | 19 | 1 | - | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 30 | 2 | 32 | 34 | - | 34 |
| Жлобін гор. | 6 | - | 6 | 7 | - | 7 |
| Калінкавічы гор. | - | - | - | 9 | - | 9 |
| Карма р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 5 | - | 5 | - | - | - |
| Лоеў р.в. | - | 1 | 1 | - | - | - |
| Мазыр гор. | 29 | 3 | 32 | 37 | 12 | 49 |
| Акцябарскі р.в. | - | - | - | - | - | - |
| Нароўля р.в. | - | 24 | 24 | - | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 5 | 7 | 4 | - | 4 |
| Рэчыца гор. | 2 | 1 | 3 | 6 | - | 6 |
| Рагачоў гор. | 1 | 3 | 4 | 1 | - | 1 |
| Светлагорск гор. | 11 | 5 | 16 | 6 | - | 6 |
| Хойнікі р.в. | 3 | 34 | 37 | 4 | 1 | 4 |
| Чачэрск р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| **Усяго:** | **146** | **138** | **284** | **220** | **17** | **237** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | | | | | |
| Берастравіца | 3 | - | 3 | 3 | - | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 9 | - | 9 | 20 | - | 20 |
| Воранава р.в. | 3 | 3 | 3 | 1 | - | 1 |
| Горадня гор. | 96 | 3 | 99 | 91 | 3 | 94 |
| Горадня РВПС | 37 | - | 37 | 37 | - | 37 |
| Дзятлава р.в. | 9 | - | 9 | 10 | - | 10 |
| Зэльва р.в. | 3 | - | 3 | 3 | - | 3 |
| Іўе р.в. | 1 | - | 1 | 1 | - | 1 |
| Карэлічы р.в. | 4 | - | 4 | 7 | - | 7 |
| Масты р.в. | 8 | 28 | 36 | 6 | 9 | 15 |
| Наваградак гор. | 9 | - | 9 | 18 | - | 18 |
| Астравец р.в. | 6 | - | 6 | 3 | - | 3 |
| Ашмяны р.в. | 15 | - | 15 | 9 | 36 | 45 |
| Смаргонь гор. | 6 | - | 6 | 10 | - | 10 |
| Слонім гор. | 10 | - | 10 | 9 | - | 9 |
| Свіслач р.в. | 4 | - | 4 | 5 | - | 5 |
| Шчучын р.в.ю | 4 | - | 4 | 3 | - | 3 |
| Ліда | 12 | 120 | 132 | 40 | 120 | 160 |
| **Усяго:** | **239** | **151** | **390** | **276** | **168** | **444** |
| **Магілёўская вобласць:** | | | | | | |
| Бабруйск гор. | 16 | 1 | 17 | 8 | 1 | 9 |
| Бабруйск РВПС | - | - | - | - | - | - |
| Бялынічы р.в | 1 | 2 | 3 | 2 | 22 | 24 |
| Быхаў р.в. | 1 | 2 | 3 | 3 | 44 | 47 |
| Глуск р.в. | 2 | 2 | 4 | - | 2 | 2 |
| Горкі гор. | 21 | 1 | 22 | 27 | 1 | 28 |
| Дрыбін р.в | 1 | 2 | 3 | - | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | 2 | 2 | - | - | - |
| Клічаў р.в. | - | 2 | 2 | 1 | 1 | 2 |
| Краснаполле р.в. | - | 2 | 2 | - | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | 2 | 3 | - | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 3 | 18 | 21 | 2 | 18 | 20 |
| Касцюковічы р.в. | - | - | - | - | - | - |
| Круглае р.в. | 2 | 2 | 4 | 2 | 21 | 23 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 25 | 26 | - | 25 | 25 |
| Магілёў гор. | 19 | 54 | 73 | 24 | 72 | 96 |
| Магілёў РВПС | 3 | 21 | 24 | 1 | 60 | 61 |
| Асіповічы гор. | 8 | - | 8 | 6 | - | 6 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | - | 1 | - | 27 | 27 |
| Хоцімск р.в. | - | 23 | 23 | - | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | - | 2 | - | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - | - | 1 | 30 | 31 |
| Шклоў р.в. | 3 | - | 3 | 5 | 14 | 19 |
| **Усяго:** | **83** | **161** | **244** | **82** | **343** | **425** |
| **Усяго па краіне:** | **1335** | **1168** | **2503** | **1518** | **744** | **2262** |

## Стваральніку беларускай граматыкі Браніславу Тарашкевічу 110 гадоў



20-га студзеня 2002 года - 110 гадоў з дня народзінаў аўтара першай беларускай граматыкі для школ.

Беларускі народ вылучыў з свайго асяроддзя гэтулькіх слынных сваіх сыноў, што наша сённяшняе жыццё адно можа трымацца толькі на іхніх імёнах. От і ў студзені сто дзесятая гадавіна з дня народзінаў аўтара першай беларускай граматыкі для школ. То каму, як не школам ды іншым асветным установам найперш ушанаваць гэтае Імя. Для гэтага няшмат і трэба. Скажам, досыць, каб 20-га студзеня на ўроках роднай мовы ці літаратуры, а нават і гісторыі, згадалі гэтае імя, кораценька расказалі пра яго з падкрэсленнем, што ўсе сучасныя падручнікі па мове для школ бяруць свой выток з першай граматыкі слыннага граматыста Браніслава Тарашкевіча. І гэтага будзе досыць, каб выказаць пашану да таго, хто на заранку мінулага стагоддзя яшчэ маладым чалавекам у неспрыяльных для Беларусі варунках напісаў граматыку роднае мовы. І гэтым самым здзейсніў вычын перад сваім народам, для свайго народу! То ўшануйма ж гэтае слаўнае імя і ягоны вычын дваццатага студзеня ў кожнай школе, у кожнай навучальнай і асветнай установе.

**Сакратарыят ТБМ.**

## Прыходзьце на свята!

20-га студзеня 2002 года, у нядзельку.

У Менскім кінатэатры "Змена" а адзінаццатай гадзіне адбудзецца творчая імпрэза з нагоды 110-ай гадавіны з дня народзінаў аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

У вечарыне прымаюць удзел даследчыкі Тарашкевічавай спадчыны Арсень Ліс, Віталь Скалабан, Уладзімір Содаль, Сяргей Панізнік.

Будуць паказаны дакументальныя фільмы пра Браніслава Тарашкевіча і Аляксандра Уласава

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ

## *Браніславу ТАРАШКЕВІЧУ – 110 !*

***20 студзеня спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча (1892-1938), беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, філолага, аўтара першай "Беларускай граматыкі для школ". З 1916 па 1918 год Браніслаў Тарашкевіч працаваў на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага ўніверсітэта. Загадваў культурна-асветніцкім аддзелам Беларускага нацыянальнага камісарыяту, яго Петраградскага аддзялення. У 1917 годзе адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1918 – Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1919 годзе выкладчык беларускай і грэчаскай моў у Менскім педагагічным інстытуце. У 1920 годзе загадчык беларускага сектара дэпартаменту асветы так званай Сярэдняй Літвы, у 1921-1922 гадах дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы. У 1922 годзе Браніслаў Тарашкевіч выбраны дэпутатам Сейма Польшчы, дзе ўзначаліў Беларускі пасольскі клуб (да 1924 года). З трыбуны Сейма выступаў у абарону сацыяльных і нацыянальных правоў працоўных Заходняй Беларусі. У 1925 годзе Браніслаў Тарашкевіч выйшаў са складу пасольскага клуба і з групай левых дэпутатаў заснаваў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, дзе быў старшынём ЦК. У снежні 1925 года стаў членам КПЗБ. У студзені 1927 года арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, а ў траўні 1928 года асуджаны на 12 гадоў турмы. У 1930 годзе спецыяльным распараджэннем Прэзідэнта Польшчы Тарашкевіч быў вызвалены, а ў лютым 1931 года зноў арыштаваны дэфензівай і ў лістападзе 1932 года асуджаны за палітычную дзейнасць на 8 гадоў катаржнай турмы. 3 верасня 1933 года ў выніку абмену палітзняволенымі Тарашкевіч жыў у СССР, займаўся навуковай і літаратурнай дзейнасцю.***

***Браніслаў Тарашкевіч пераклаў на беларускую мову "Пана Тадэвуша" А. Міцкевіча, "Іліяду" Гамера, а ў апошнія гады жыцця напісаў уступны артыкул да кнігі "Інтэрпаляцыі беларускіх паслоў у польскі Сейм". Найбольш вядомай працай Тарашкевіча з'яўляецца "Беларуская граматыка для школ".***

***29 лістапада 1938 года ў Менску Браніслаў Тарашкевіч быў расстраляны бальшавікамі.***

Пачатак мінулага стагоддзя...

Беларусь нібы залегла ў глыбокі летаргічны сон. Але ішоў час – і да лепшых сыноў нашага народа спаквалая, праз гены і мову, пачынала вяртацца памяць. Асабліва гэтае абуджэнне ад летаргічнага сну адбылося напачатку стагоддзя.

І зноў, як у старажытнасці, узялася за адродзіны зруйнаванай Бацькаўшчыны Вільня. У Вільні з 1906 года пачынаюць выходзіць першыя беларускія легальныя газеты: "Наша Доля", "Наша Ніва" і шмат іншых выданняў.


171 172 84
Беларускае Выдавецкае Таварыство
Biełaruskaje Wydawieckaje Tawarystwo
Вільня, Казённая д. № 5, кв. 4.
Wilnia, Kazennaja d. № 5, kw. 4.

Дзядзька Тарас!

Вільня, 4/III-1914 г.

Ліст Янкі Купалы да Браніслава Тарашкевіча

У 1910 годзе ў Вільні была выдадзена і першая на беларускай мове гісторыя Беларусі.

Выходзіць то выходзілі, але ані беларускія пісьменнікі, ані выдаўцы не мелі адзінай унармаванай граматыкі. Кожны пісаў, як ведаў, як вывучыўся дома. Вось, прыкладам, што згадвала з гэтай нагоды адна з сучасніц той эпохі Зоська Верас: *"Што да граматыкі? Мяне ўжо аб гэтым пытаўся Вінцук Вячорка. Не было хіба нікога, каб хто так ігнараваў граматыку, як я, ведала яе ў кожнай мове, як вучылася, але толькі тады. А далей ніякіх правілаў у галаве не трымала. Пісала заўсёды па інтуіцыі, як і цяпер... А што да іншых маіх гутарковых сяброў, і яны на граматыку не аглядаліся, бо ж яе тады не было. Толькі што шмат хто пісаў мясцовымі дыялектамі".*

А патрэба ў граматыцы была неймаверная. Беларускія дзеячы настойліва шукаюць чалавека, які б узяўся падсумаваць выдавецкую моўную практыку. І такім чалавекам лёсіла стацца Браніславу Тарашкевічу, выхаванцу Пецярбургскага ўніверсітэта. Да яго з усіх бакоў ляцелі лісты з просьбаю прыспешыць напісанне граматыкі.

З ліста Янкі Купалы: *"Дзядзька Тарас! Што чуваць у вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прыслаць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце... Граматыку вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у "назіданне" маладому беларускаму пакаленню".*

Гэты Купалаў ліст з 1914 года. А от радочкі з ліста Алаізы Пашкевіч-Цёткі з тае ж нагоды:

*"Тарас, чаго сядзіш на Парнасе? Злазь! (...) Ты аб асобнасці беларускай мовы напішы з выясненнем, што беларуская мова ёсць мова, а не "наречие", як шмат хто кажа..."*

З гэтым жа клопатам, з клопатам пра граматыку, Цётка звярталася і да прафесара Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслава Эпімаха-Шыпілы:

З ліста Алаізы Пашкевіч-Цёткі да Браніслава Эпімаха-Шыпілы:

*"Дужа паважаны прафесар!*

*Выбачайце, што незнаёмая і пішу да Вас. Я Пашкевічанка... калісь прабавала вершы пісаць і іх вам чыталі. Во то ж цяпер жыву ў Львове, з украінцамі – русінамі і ўніятамі заводжу знаёмства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце штo, то прышліце. Я хачу давядацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як чаго трымацца...*

*З паважаннем*
*Пашкевічанка.*
*28 чэрвеня 1906 г.*


BIEŁARUSKAJA HRAMATYKA
dla škoł.
Napisaŭ kandydat filolohii Pietrahr. Uniwer.
B. Taraškiewič
Wydańnie „Biełaruskaha Kamitétu".
WILNIA
Drukarnia M. Kuchty.
1918 h.

Граматыка Браніслава Тарашкевіча, выданне 1918 года

Браніслаў Тарашкевіч і сам рупіўся, спяшаўся, хацеў даць як мага хутчэй народу, школе, пісьменнікам граматыку роднае мовы. Каб спакойна завяршыць працу, ён едзе аж у Фінляндыю.

Газета "Вольная Беларусь" з гэтай нагоды ў 1918 годзе пісала:

*"... Атрымаліся весткі, што ўжо напісаны і хутка надашлюцца да друку тры беларускія граматыкі трох розных аўтараў. Адзін з гэных аўтараў, філолаг Б. Тарашкевіч, надумысля, каб ухіліцца перашкод у працы, удаўся быў на вёску ў Фінляндзію на цэлае лета, і там абдумваў, укладаў і цяпер скончыў пісаць беларускую граматыку і аддаў на пераглад знаўцам і крытыкам, каб дасьведчыцца, ці ўсё ясна апрацована, ці німа якіх хіб і ці ня трэба дзе зрабіць якіх перамен або паправаў. Значыць, не ў далёкім часе яна надрукуецца, выйдзе ў сьвет, і мы мецьмем сваю ўласную беларускую граматыку. На моцы гэтага ўсьцешанага для нас выпадку, цікава азнаёміцца з тым, чаго вымагае сучасная навука ад граматыкі, як школьнага падручніка, чым мае кіравацца і якой мэты павінен трымацца настаўнік у справе навучання граматыцы роднае мовы..."*

І вось нарэшце граматыка беларускай мовы для школы выйшла.

Гэта вонкава была сціплая шэрая кніжачка. Яна нечым нагадвала сціплую, шэрую птушачку нашых палёў – жаваранка. Але мы ведаем, які дарагі нам спеў гэтай маленькай шэрай птушачкі ранняй вясною. Гэткай дарагой для сэрцаў беларускай была і наша першая граматыка. Выданне яе адкрывала для беларускіх асветнікаў новыя мажлівасці.

Пад час выхаду "Граматыкі" Браніслава Тарашкевіча ў 1918 годзе на Беларусі існавала ўжо больш за дзвесце беларускіх школ і настаўніцкая беларуская семінарыя ў Свіслачы. І ім таксама патрэбна была беларуская граматыка. А пакуль, як ужо згадвалася, усе пісалі гэтак, як і гаварылі... Кожны пісаў, як чуў, як ведаў, як дома гаварылі...



Бацькі Браніслава Тарашкевіча

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ


15

Глухія сугалосныя перад звонкімі робяцца звонкімі:

пішыцца — выгаварваецца
касьба — казьба
малацьба — маладзьба
і т. д.

§15. Па-беларуску найчасцей так пішыцца, як гаворыцца. Але часамі ад гэтага правіла адступаюць (бач, напрыклад, §14).

Задачка: 1. Перапісаць гэтые вершы не так, як напісана, а так, як гаворыцца.

Асенні вечар.

Вые бура. Лес гамоніць,

Старонка рукапісу граматыкі Б. Тарашкевіча

Гэтае асноўнае правіла занатаваў у сваёй граматыцы і Браніслаў Тарашкевіч. На старонцы дваццаць пятай рукапісу запісана:

***§ 15 па-беларуску найчасцей так пішацца, як гаворыцца. Але часамі ад гэтага правіла адступаюць.***

***Пішацца: касьба – гаворыцца казьба.***

***Пішацца: малацьба – выгаворваецца – маладзьба.***

Некаторыя звышранімыя людзі, звышкультурныя і проста звышлюдзі гэтае залатое правіла беларускай мовы ператварылі ў жарт, у анекдот. А дарэмна: чым найпрасцейшыя правілы, найпрасцейшая граматыка – гэта вялікае дасягненне народу, бо за прастатой граматыкі стаіць вялікая эканомія чалавечых рэсурсаў, матэрыяльных і духоўных.

Пра гэта ніколі нельга забывацца і нават трэба спакваля, паволі спрашчаць граматычныя правілы, каб было больш часу на вывучэнне не правілаў граматыкі, а самой мовы. Але вернемся да гістарычных матэрыялаў, да нашых друкаваных крыніцаў.

У 1918 годзе з нагоды падрыхтоўкі "Граматыкі беларускай мовы" газета "Вольная Беларусь" змяшчала такія развагі:

*"Правілы пісьма па-беларуску не павінны быць такімі – каб завадзіць штучную мову. Ні з граматыкі мусіць укладацца мова, а зусім наадварот. З мовы – жывой мовы..."*

Гэтага пастулату і трымаўся Браніслаў Тарашкевіч.

Няпросты лёс стаўся і аўтара граматыкі беларускай мовы. Ён стаўся ахвярай рэпрэсаў і быў расстраляны тагачасным рэжымам. Такая ўдзячнасць людзей за асвету, за навуку, за жаданне вывесці людзей з цемры да святла.

Некалі, яшчэ напачатку творчага шляху, бацька Браніслава Тарашкевіча, просты селянін з асцярогай глядзеў на сынавы парыванні, нібыта прадчуваючы бяду: "А што, сынок, беларускі народ гатовы, каб ты склаў за яго галаву?" – сказаў ён. Сын на гэта толькі ўсміхнуўся, ды адно падумаў: "Мусіць, не з неба гэтая трывога!"

Тарашкевіча неаднойчы засцерагалі, каб ён быў больш абачлівы, дыпламатычны, не лез на ражон. Але дзе там! За беларускую ідэю, за беларускую праўду ён ішоў на скрут галавы. У гэтай рашучасці ён чымсь нагадваў бальшавіцкіх камісараў. Адну пару ён і апранаўся пад камісара: у фрэнчы, з туга зашпіленымі на гузікі, свярдлоўскі картуз, пад пашкай штосьці кшталтам скуранай папкі. На носе пэнснэ. А можа гэта імідж міністра замежных спраў ці міністра асветы беларускай дзяржавы? Ці імідж дыпламата? І Тарашкевіч згадзіўся б на любой дзяржаўнай пасадзе. Ён мог кіраваць і ўрадам, і краінаю. У ягонай галоўцы хадзілі дзяржаўныя думкі. От, прыкладам, якое было ў Тарашкевіча разуменне ролі роднай мовы ў грамадстве: *"Родная мова ва ўрадзе, у школе найпатрэбней якраз для простага народу, каб зразумела йшлі ў галаву патрэбныя рэчы. Дзеля гэтага канечнай патрэбай ёсць дэмакратызацыя культуры – без гэтага свабоды палітычныя – адна мёртвая літара".*

Такім быў Тарашкевіч ва ўсім. А гэта ніяк не адпавядала ідэалогіі ні бальшавікоў, ні шляхетнай Польшчы. Таму такі і фінал адданага сына нашага народа Браніслава Тарашкевіча. Адны і другія імкнуліся стрымаць нацыянальны рух беларусаў.

***Уладзімір Содаль.***
***18.XII.2001 г.***


Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада

Партыйны білет

Цэнтральны Сэкрэтарыят Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады — Вільня, Віленская вул. ...

Білет № 9360

Салонь Уладзімір

па прафэсіі чарнарабочы

які пражывае ў в. Урал

Дзевяткаўская

Слонімскага

пошта ...

зьяўляецца сябрам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Старшыня Б. Тарашкевіч

Сэкрэтар ...

Партыйны білет сябра БСРГ, падпісаны Б. Тарашкевічам



*Фатаграфічная спадчына Браніслава Тарашкевіча немалая – з юнацкіх гадоў да сталасці. На ўсіх здымках Браніслаў мэтаімкнёны, засяроджаны, поўны веры ў свае парыванні. Але вось гэты, з пераломнага часу, асаблівы. Гэта не артыстычная поза аўтара першай беларускай граматыкі для школ. Гэта роздум пра будучыню: "Ці зможам яе? Ці адолеем?" І адказ: "Я ўсё змагу! Я ўсё адолею! Мяне нішто не стрымае! Я твой сын, Беларусь! І ўсё, што магу, што ўмею, на што здольны, - для цябе, Радзіма! Усё, што ні запатрабуеш – зраблю!"*

## Браніслаў Тарашкевіч

*Чаму такі ўжо лёс? Чаму заўсёды позна?*
*Хоць сам ты на "Граматыцы" сваёй накрэслі крыж!*
*Сярэдняя Літва далучана да Польшчы,*
*а ў польскі Сейм крычаць -- як да глухіх крычыш.*

*У Цопат тайняком?*
*Па грошы да Саветаў?!*
*Эх, што з таго жыцця, калі ляціш да зор!*
*І грымне Грамада -- кароткая, як лета...*
*У гродзенскай турме даўжэйшы калідор.*

*Мяжа. Абмен. Масква.*
*Чырвоным дробным клеркам*
*цягнуць свой рэферат, сваёй чаргі чакаць*
*да ямы са сваім расстрэльным пакаленнем*
*і думаць, ці пачнуць "Граматыку" чытаць...*

***Алесь Чобат.***



Хата бацькоў Браніслава Тарашкевіча пад Вільняй



# Справаздача Баранавіцкай гарадской Рады ТБМ

У 2001 годзе Баранавіцкая гарадская арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", як і ў папярэднія часы, працягвала прапагандаваць беларускую мову, займалася адраджэнцкім рухам супольна з іншымі культурніцкімі арганізацыямі горада Баранавічы.

Візітовай карткай нашай арганізацыі стала штотыднёвая радыёперадача "Люблю наш край", якая выходзіць на Баранавіцкім радыё кожную сераду а 21.30. Вядоўцам гэтай радыёперадачы вось ужо 6 гадоў з'яўляецца Алесь Горбач, якому цяпер стала дапамагаць Наталля Урублеўская, раней адказная за літаратурную частку радыёперадачы. На працягу 2001 года выйшла 46 радыёперадач, прысвечаных значным культурніцкім падзеям не толькі Баранавіччыны, але і ўсёй Беларусі. У гэтым жа годзе пачаў выходзіць друкаваны дадатак (на 22 старонках) да радыёперадачы "Люблю наш край". Гэты часопіс мы распаўсюджваем не толькі сярод актывістаў ТБМ, але і паміж навучэнцамі школ, ПТВ, студэнтаў ВНУ гор. Баранавічы.

30 студзеня 2001 года адбылася творчая сустрэча сяброў гарадской арганізацыі ТБМ з пісьменнікам Анатолем Вярцінскім. Гэтая сустрэча паклала пачатак вялікай колькасці творчых сустрэч і імпрэз, якія ладзіла Баранавіцкая Рада ТБМ на працягу ўсяго года.

5 сакавіка 2001 года адбылася гарадская імпрэза, прысвечаная 105 годдзю з дня народзінаў творцы нацыянальнай байкі К. Крапівы. Гэтую вечарыну ладзіла Рада ТБМ супольна з супрацоўнікамі Баранавіцкай Цэнтральнай бібліятэкі імя В. Таўлая. 8 красавіка 2001 г. адбылася творчая сустрэча з народным паэтам Беларусі сябрам сойму БНФ "Адраджэнне" Рыгорам Барадуліным і беларускім бардам Алесем Камоцкім. Сустрэча запомнілася не толькі тым, што ў гарадской зале Дома афіцэраў забралася амаль 500 аматараў роднага слова, але і цікавымі, праблемнымі, вострымі пытаннямі – адказалі як слухачоў, так і паэта Рыгора Барадуліна.

Хацеў бы адзначыць, што ў нас склаліся вельмі добрыя, творчыя адносіны з супрацоўнікамі не толькі цэнтральнай, але і іншымі бібліятэкамі горада. Вось ужо на працягу 6 гадоў 1 верасня мы супольна ладзім свята беларускага пісьменства і друку. 1 верасня 2001 года мы правялі прэзентацыю кнігі баранавіцкага паэта А. Корнева "У след за ластаўкай".

А ў нядзелю, 27 кастрычніка, па запрашэнні сяброў ТБМ горад Баранавічы наведаў славуты гісторык, пісьменнік і грамадскі дзеяч Уладзімір Арлоў. Сумесна з сваімі калегамі і сябрамі, пісьменнікам і перакладчыкам Лявонам Баршчэўскім, а таксама спецыялістам у галіне інфармацыйных тэхналогій, журналісткай Таццянай Цюрынай ён прыняў удзел ва ўрачыстай імпрэзе, якая адбылася ў той жа дзень у доме Афіцэраў. Гісторык Арлоў расказаў прысутным аб сваім жыцці, працы, падзяліўся творчымі планамі і, канешне ж, адказаў на шматлікія пытанні, якія слухачы літаральна засыпалі шаноўнага госця.

9 снежня – ТБМ арганізавала вандроўку ў горад Старыя Дарогі, дзе быў усталяваны помнік слыннай беларусцы Ларысе Геніюш. Удзельнікамі гэтага мерапрыемства сталі прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў горада і былыя палітычныя вязні сталінскіх катоўняў, што сядзелі разам з беларускай паэткай Ларысай Геніюш. Нягледзячы на вялікі мароз, вандроўка ў Старыя Дарогі ўсім вельмі спадабалася і пакінула прыемныя ўражанні.

У 2001 годзе Рада ТБМ надавала вялікую ўвагу вандроўкам па родных ваколіцах. Дзякуючы намаганням сябра Баранавіцкай Рады ТБМ Віктара Мезяка, удалося арганізаваць для вучняў беларускамоўных класаў вандроўкі ў Горадню і Менск.

16 снежня 2001 г. у вялікай зале Дома афіцэраў ладзілася свята, прысвечанае 110 угодкам з дня нараджэння знакамітага беларускага паэта М. Багдановіча. свята суправаджалася ўручэннем грашовых прэмій пераможцам віктарыны, прысвечанай угодкам паэта. Старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ Віктар Сырыца ад імя ТБМ узнагародзіў ганаровымі граматамі за прапаганду і папулярызацыю роднай мовы сярод насельніцтва горада паэта Алеся Белага і пазаштатнага карэспандэнта газеты "Наша Ніва" Руслана Равяка. Перад прысутнымі выступілі з канцэртам выкладчыкі і студэнты Баранавіцкай музычнай навучальні.

***Старшыня***
***Баранавіцкай Рады ТБМ***
***Віктар Сырыца.***

**Брусэль, 20 сьнежня 2001**

# Паважаная Рэдакцыйная калегія "Нашага слова"

З вялікай прыемнасьцю чытаю нацыянальныя беларускія газэты з Бацькаўшчыны, толькі некалькі, якія цьвёрда і пасьлядоўна стаяць у абароне беларускай мовы ў праўдным і чыстамоўным аспэкце, яе чысьціні. Нажаль здараюцца выпадкі ня так ўжо і рэдкія – якія колюць вочы, якія цяжка беларус "пераварыць". Для прыкладу ў н-ры 37(525) "Нашага слова", у артыкуле "Надзеі Сармант ... " пішацца: "Выдатнаму ў сталіцы арганізатару ... аўтару... былому кіраўніку ...намесніцы ... віншуюць спадарыню Надзею з узростам сьпеласьці...". Вось амаль і цэлы артыкулік, а колькі ў ім горкіх ягадак. Чаму ў акрэсьленьні некаторых заняткаў, ці дзейнасьці, надаецца амаль выключна іх мужчынскі характар? Калі мы правільна пішам "намесьніца" (муж. намесьнік), "дакладчыца" (м. дакладчык) і г. д., дык чаму ж тады ня пішам "кіраўнічка" (м. кіраўнік), "аўтарка" (м. аўтар), "арганізатарка" (м. арганізатар) і г.д.?

Ёсьць жа ў нас: "сакратарка", "аптэкарка", "дырэктарка", "дакладчыца", "загадчыца", "настаўніца", "равесьніца", "кухарка" (м. кухар) і гэтак далей і далей. Часамі ўжываецца і так, і гэтак. Вось для прыкл. "намесьніца" (ст.3 Наш. сл.), "а спадарыня Л. Турба ёсьць "намесьнік" (ст.4 ). Альбо чаго вартая выражэньне: "...З узростам сьпеласьці, мудрасьці". Ці ж па беларуску ня трэба сказаць: "З векам сьпеласьці, мудрасьці". Да таго ж, што гэта такое "ўзрост"? Наогул, калі ходзіць пра колькасьць гадоў, то ў нас (Ляхавіцкі р-н) гаварылі: "Колькі ж табе год (гадоў)?" або: "Які ж твой век?" Ніколі для абазначэньня "веку" ня ўжывалі слова "ўзрост". Гляньце ў слоўнік М. Байкова і С. Некрашэвіча. Там беларускае паняцьце "век" адказвае расейскаму "век", "возраст". "Рост" каменя або "рост" гораду гучыць недарэчна і сьмешна. "Узрошчваць патрыётамі"... Чаму ж такую практыку не замяніць: узгадоўваць (або гадаваць) патрыётамі"? Або што значыць: "рабяткі" ці "жараб'ёўка" (Гол. Радз.)? Або выражэньне "ускочыць з ложка"? Можна ўскочыць у ваду, у балота, а з ложка толькі падхапіцца, ці хуценька устаць. Альбо "спавядаць". Можна спавядаць каго, але ня што. Не "спавядае" іслам" а вызнае іслам. Не "спавядае" ісьціну, а вызнае ісьціну. Дзякаваць можна не "каго" а каму: дзякую табе, дзякую вам усім... Жаніцца можна не "на кім" (на Каці), а з кім (з Кацяю). Адкуль у нас такія чужыя нашаму духу і лёгіцы выражэнні?.

Дзякаваць Богу што ўжо больш не пішуць пра "сьвінаматак". Памятаю які гэта быў рогат, калі мы першы раз прачыталі такое слоўца. Адразу ж і паўстала новае слова: "сьвінабацька". Сьмех - сьмехам, а калі чытаеш вось такія слоўцы ці выражэньні робіцца на душы балюча і крыўдна. Ці-ж беларуская мова настолькі бедная каб жыўцом зьдзіраць падобныя расейскія калькі? Чаму зьдзекуемся са свае мовы? Не, нашая мова ня бедная. Калі не знайходзім адпаведнага слова дык загляньма ў добры слоўнік, а калі і там не знойдзецца – дык проста ўводзьце ва ўжытак дыялектныя словы і выражэньні. І так яны стануць літаратурнымі, заблішчаць усімі колерамі. І так ня будзе ў нас нейкіх "вяршкоў", а будзе нашая смачная сьмятана; ня будзе у нас "сьметанковага масла", а будзе проста масла.

Прызнаюся Вам шчыра што проста ніякавата мне пісаць тое, што напісаў. Вам напэўна ня менш балюча за чысьціню нашай прыгожай мовы, і за яе бяспраўны статус у яе дома. Усім нам яе любіць, шанаваць і зберагаць, бо яна – як пісаў Бурачок – нашая душа.

Канчаючы гэтыя вось мае заўвагі хачу яшчэ закрануць і наступнае. На мапе Беларусі (Навіны БНФ – Адраджэньне №№ 29 (62) усе тапонімі Беларусі транслітэраваліся з іх расейскага напісаньня на англійскую мову. Гэта ж недапушчальна! Нават вядомы ва ўсім сьвеце амэрыканскі часопіс "National Geoqraphic" пішучы калькі пра чарнобыльскую катастрофу надаў і мапу Беларусі ў якой усе тапонімы Беларусі падаты у іх беларускім ляцінічным напісаньні! Чаму-ж мы самы так бязьлітасна і бяздушна зьдзекуемся і нявечым усё сваё?! Чаму-ж не напісаць проста Zytkavicy a ne "Zhitkovichi"? Чаму не Barysau а нейк "Borisov", чаму ня Homiel a "Gomel"?

Апрача гэтага чаму мы адказаліся ад нашага заўсёднага напісаньня Вільня (Vilnia) на нейкі невядомы ў гісторыі "Vilnius"?

Дык вось, у нас ёсць свая, нашая, беларуская лацінка і яе трэба выкарыстоўваць там дзе трэба: у чужамоўным беларускім друку, у афіцыяльных дакумэнтах (нпр. заграначныя пашпарты). І так нашыя імёны і прозвішчы ня будзем перакручваць, а будзем іх пісаць так як пішуць і другія народы: паляк па польску, летувіс па летувіску, чэх па чэску, а беларус pa bialarusku.

Зычу Вам усім здаровых Каляд і шчасьлівага Новага 2002 году. Хай ён будзе ураджайным на Вашым полі.

***Арэшка.***

***Ад рэдакцыі:***

*Артыкул друкуецца з захаваннем правапісу арыгіналу.*

# СЛОВА НА ПАМЯЦЬ САМСОНА ПЯРЛОВІЧА.

14 снежня 2001 года на 79 годзе жыцця памёр паэт Самсон Пярловіч. Памёр раптоўна, не паспеўшы завяршыць задуманае. Памёр Беларус. Памёр пясьняр-самавучка з Наваградчыны.

Гітлераўскія і сталінскія лагеры не знішчылі ў ім прагі жыцця, сумлення, любові да роднай зямлі, да беларускага слова. У 1947 годзе ён быў асуджаны на дзесяць гадоў зняволення за напісанне верша "Паднімецца крыўда", у якім асмеліўся выступіць супраць Сталіна і яго падхалімаў. Прайшоўшы праз пакуты на лесапавалах рэчак Усць і Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карагандзе, у 1956 годзе вярнуўся ў свой родны Навагрудак. Тут ён сумленна працаваў і пісаў вершы. Але на жаль, так і не дачакаўся рэабілітацыі.

У Менску, Горадні, Лідзе, Бярозаўцы і ў шматлікіх клубах Наваградчыны спяваюць яго "Шыпшыну", гучаць яго гумарыстычныя вершы. З творамі Самсона Пярловіча нярэдка знаёміла раённая газета "Новае жыццё". Паэта неаднаразова запрашалі ў школы горада на сустрэчы з вучнямі.

Не абыякавы да лёсу Бацькаўшчыны, якому балела за неўладкаванасць Беларусі, піша вершы "Бараніце суверэнітэт", "Розумам, сэрцам выбірайце... і абмануць сябе не дайце".

Зборнікі вершаў Самсона Пярловіча "Заяц на бярозе", "Бяссмертнік", "Чарадзейны агонь" добра вядомы прыхільнікам яго творчасці. Рыхтаваў матэрыялы яшчэ для аднаго зборніка. Не паспеў...

Мы верым, што прыдзе час, і наваградчына ўшануе імя свайго слаўнага сына, і зерне, пасеянае ім, узыдзе буйным коласам.

***Сябры Наваградскай суполкі "Узвышша" Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

## Два з апошніх вершаў Самсона Пярловіча

### БАРАНІЦЕ СУВЕРЭНІТЭТ.

Што ж гэта, Беларускі краю,
Над табою вытворваюць зноў?!
Запрагаць хітра пачынаюць
Тваіх дачок, тваіх сыноў.

Вось так ужо, як і на мову,
Накінуты зноў ланцугі,
Мяркуюць, каб нам і падкову
Прыбіць да кожнае нагі.

А калі здасца мала, будуць
Навальваць грузу так, каб быў
Навалены, як і вярблюду,
Схаваўшы ўсе яго гарбы.

Абараніліся б часамі
Ад гэтае напасці мо,
Але ж нямала тых, што самі
Ганебна лезуць у ярмо.

Асленленым ім не трывожна
Цяпер яшчэ. Ну, а пасля?
І трапятацца будзе позна
Калі дыхнуць не дасць пятля.

Адумайцеся. Усё ж людзі
На гэтым белым свеце, вы!
Свабодна будуць дыхаць грудзі,
Калі край будзе наш жывы.

Ён шчодра аддае, паслушна
Вам увесь скарб дабра свайго.
То бараніце ж цяпер дружна
Вы ўсе, Суверэнітэт яго!

### РОЗУМАМ, СЭРЦАМ, ВЫБІРАЙЦЕ.

Да важных спраў сваю нязгоднасць
Адкіньце прэч, іператрусы!
Для шчасця Беларусі роднай
Яднайцеся ўсе Беларусы!

У еднасці братэрскай толькі
Вялікай перамогі сіла.
Адчуе кожны шчасця колькі
У мудрасці, што вас злучыла.

З хвіліны гэтай назаўсёды
Сям'ёй адзінаю ідзіце!
Усе нягоды – перашкоды
Для вас нягодныя, скарыце!

Нават ніводнага мамэнта
Вы надарэмна не губляйце!
Краіне роднай прэзідэнта
Розумам, сэрцам выбірайце!
І абмануць сябе не дайце!

Аляксандр Талерчык

# ПАРЭЦКІ СВЯТАР ХВЕДАР ДАНІЛЮК

Імя парэцкага святара са Слонімшчыны Хведара Данілюка, духоўнага айца і беларускага змагара, больш вядома за межамі Радзімы і толькі цяпер вяртаецца на Беларусь. Як піша яго біёграф Уладзімір Ляхоўскі ў артыкуле "Святар і вояр", яго жыццёвы шлях не быў ухвечаны ружамі. Ён не зрабіў кар'еры і не азалаціўся на беларускай славе. Затое, як беларускі патрыёт, досыць зведаў здзекаў і ганенняў ад ворагаў Беларушчыны, не раз быў у кроку ад смерці, спазнаў напрыканцы свайго жыцця і лёс выгнанніка на чужыне. Але, нягледзячы на ўсе жыццёвыя складанасці, айцец Хведар застаўся верным сваім ідэалам і перакананням, за якія ўвесь час змагаўся словам і справай як святар і вояр.

Нарадзіўся ён 12 жніўня 1887 года ў сяле Сурынка Жыровіцкай воласці Слонімскага павету ў беларускай сялянскай сям'і Васіля і Агрыпіны. Яго бацька страціў здароўе ў царскім войску, таму ўвесь цяжар працы па гаспадарцы, выхаванні і доглядзе дзяцей несла на сваіх плячах маці. Дзеці выхоўваліся на хрысціянскіх традыцыях, у любові ды працы. Яшчэ змоладу Хведар меў намер прысвяціць сябе служэнню Богу. Скончыўшы народную навучальню ў Сурынцы, Данілюк паступае ў духоўную школу пры Жыровіцкім манастыры. Адначасова з асноўнай вучобай ён наведвае курсы псаломшчыкаў. Дзякуючы свайму прыгожаму і высокаму голасу, Хведар быў прыняты ў манастырскі хор. Пасля заканчэння духоўнай школы Данілюк некаторы час працуе настаўнікам пачатковай школы ў в. Забулле на Слонімшчыне, пасля служыць псаломшчыкам у праваслаўным прыходзе в. Глінная Кобрынскага павету.

З пачатку першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў дзейную рускую армію і восенню 1914 года пераведзены ў артылерыю Нова-Георгіеўскай крэпасці. Скончыўшы ў пачатку 1917 года вайсковую школу ў Гатчыне ў чыне падпаручніка, прызначаецца ў 4-ю роту, а пазней начальнікам вучэбнай каманды 223-га Запаснога палка, які размяшчаўся ў Таржку.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Хведар Данілюк шчыра далучаецца да беларускага руху, вядзе нацыянальна-выхаваўчую працу сярод беларускіх жаўнераў, гуртуючы іх вакол ідэі стварэння самастойнай Беларусі і нацыянальнага войска. У верасні таго ж года ён удзельнічае ў з'ездзе беларусаў-вайскоўцаў у Маскве, дзе разглядалася пытанне аб стварэнні нацыянальных збройных аддзелаў. З гэтай мэтай Данілюк дабіўся свайго пераводу ў 118-ы полк, які знаходзіўся на Румынскім фронце і ў большасці складаўся з беларусаў, пераважна сланімчан. Пасля лютаўскай рэвалюцыі быў выдадзены загад аб стварэнні нацыянальных злучэнняў і на Румынскім фронце, згодна з якім беларусы павінны былі збірацца ў 4-м корпусе, які размяшчаўся каля Ільештаў (сучасная Румынія). Данілюк быў прызначаны нацыянальным камісарам гэтага корпуса. Яго заданнем было сабраць усіх беларусаў фронту ў гэты корпус. На жаль, бальшавіцкі пераварот і абвешчаная дэмабілізацыя царскай арміі не дазволілі яму поўнасцю гэта выканаць. З цэлага корпуса засталося не больш паўтары тысячы жаўнераў. Нават гэтымі сіламі ўдалося назбіраць 6 цягнікоў, у якіх было 200 коней, 2000 вінтовак, 12 гармат, 10 вагонаў харчавання, 4 вагоны амуніцыі. Усё гэта меркавалася перапраўляць у Менск ураду БНР для патрэбаў нацыянальных збройных сілаў рэспублікі. Але ўдалося адправіць толькі 2 цягнікі, бо на астатнюю маёмасць румынскія ўлады наклалі арышт. Пераканаўшыся, што выратаваць маёмасць не ўдасца. Данілюк у верасні 1918 г. вярнуўся на Бацькаўшчыну. На Гарадзеншчыне становіцца адным з лідэраў нацыянальнага руху. Разам з Кузьмою Цярэшчанкам (міністрам унутраных спраў ва ўрадзе Антона Луцкевіча) Хведар Данілюк праводзіць у Ваўкавыску сялянскі павятовы з'езд, дзе была абрана Беларуская павятовая Рада на чале з ім. У студзені 1919 года Ваўкавыск захапілі палякі, і Данілюк пераехаў у Горадню. Тут стваралася беларускае войска, і Хведар уступіў малодшым афіцэрам у 1-ы Беларускі Гарадзенскі полк пад камандаваннем капітана Дзямідава. У лютым, пры вярбоўцы жаўнераў у Вялікай Бераставіцы, ён быў арыштаваны польскай жандармерыяй і пасаджаны ў беластоцкую турму, адкуль разам з сябрамі ноччу 25 сакавіка ў нацельнай бялізне і босым ім удалося ўцячы і дабрацца да Горадні. Потым разам з урадам А. Луцкевіча перабраўся ў Коўню. У траўні 1920 года па заданні прадстаўніцтва БНР ён нелегальна перабіраецца ў Менск у распараджэнне Беларускай Вайсковай Камісіі. Данілюк быў залічаны афіцэрам запасу ў беларускае войска. У час летняга наступу Чырвонай арміі хаваўся ад бальшавікоў на Слонімшчыне, але быў выкрыты і арыштаваны. Расстрэлу пазбегнуў з-за панічных уцёкаў савецкіх войск пасля паразы пад Варшавай. Увосень знаходзіўся ў складзе Беларускай Вайсковай Камісіі ў Коўні. Калі ў лістападзе 1920 года грымнула Слуцкае паўстанне, Данілюк разам з іншымі беларускімі афіцэрамі быў накіраваны ў Слуцк на дапамогу паўстанцам. Спачатку служыў малодшым афіцэрам у 1-ым палку Слуцкіх стральцоў БНР, але хутка быў прызначаны камандзірам вучэбнай каманды. У той час камандзірам 1-га Слуцкага палка быў падпалкоўнік Гаўрыловіч, а камандзірам брыгады штабс-капітан Антон Сокал-Кутылоўскі.

Брыгада прымала ўдзел у баях з бальшавікамі пад Капылем, Цімкавічамі, Едчыцамі і на рацэ Лань. Але з-за недахопу зброі і харчавання Рада Случчыны прыняла рашэнне, каб брыгада перабралася праз раку Лань на тэрыторыю, што была кантраляваная польскімі войскамі. Тут жаўнеры і афіцэры Слуцкай брыгады былі раззброены і інтэрнаваны. Данілюк з вучэбнай камандай быў высланы ў Лодзь у распараджэнне Беларускай Вайсковай Камісіі. Гэтая камісія была створана яшчэ ў 1919 годзе Цэнтральнаю Радаю Віленшчыны і Гарадзеншчыны і дзейнічала да 15 траўня 1921 года. Пасля яе ліквідацыі Данілюк вяртаецца да сям'і ў Вярэйкі пад Ваўкавыск. Тут вырашае прыняць святарскі сан, "...каб іншым спосабам у змененых абставінах служыць свайму народу".

24 верасня 1921 года Хведар Данілюк прыняў пасвячэнне ад Беластоцкага праваслаўнага архіяпіскага Уладзіміра і пачаў сваю святарскую дзейнасць спачатку ў прыходзе сяла Дзявяткавічы, а потым – у Парэччы Слонімскага павету.



Хведар Данілюк

Час, калі святаром у Парэччы быў Данілюк, характарызуецца ўздымам вызваленчай барацьбы беларусаў супраць польскай акупацыі. У траўні 1926 года была створана Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ). Яе Цэнтральны камітэт у Вільні ўзначаліў вядомы беларускі вучоны-філолаг і гісторык, аўтар першай беларускай граматыкі, вядомы дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху Б. Тарашкевіча, а кіраўніком Цэнтральнага сакратарыяту Грамады стаў настаўнік з суседняй вёскі Чамяры Максім Бурсевіч. У студзені 1927 года Грамада мела больш 2 тыс. гурткоў і аб'ядноўвала каля 120 тыс. сяброў, пераважную большасць якіх складалі бяднейшыя і сярэднія сяляне. Асабліва шырокага размаху дасягнула дзейнасць Грамады ў Слонімскім павеце. Тут дзейнічала 167 гурткоў, якія аб'ядноўвалі 15 тыс. чалавек. Прыхільнікам яе быў Хведар Данілюк. У гэтай справе сярод святароў ён быў не адзіным.

У гэты час святаром у Казлоўшчыну (гэта 20 км ад Парэчча) быў прызначаны былы кіраўнік Слуцкага збройнага чыну Антон Сокал-Катылоўскі. Хаця Антон Андрэевіч быў на пяць гадоў малодшым за Данілюка, ён меў вялікі ваенны і палітычны досвед. Нарадзіўся і выхоўваўся ў шляхецкай сям'і на хутары Чырвоная Горка Лунінецкага павету. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. У час 1-й сусветнай вайны быў у дзейнай арміі. Пасля заканчэння Казанскай вайсковай школы атрымаў чын падпаручніка. У 1918 годзе ў складзе добраахвотнай арміі генерала Дзянікіна камандаваў ротай. У снежні 1918 года вярнуўся дамоў, а ў студзені 1919 года быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. У ліпені перайшоў у Белую армію генерала Юдзеніча. Падчас Слуцкага збройнага чыну камандаваў Слуцкай брыгадай з паўнамоцтвамі ваеннага дыктатара па кіраўніцтву паўстаннем. Пасля паразы паўстання вярнуўся ў родныя мясціны і некаторы час працаваў настаўнікам, а потым служыў святаром на Слонімшчыне. Пры падтрымцы вядомага на Слонімшчыне беларускага нацыянальнага дзеяча Сяргея Хмары ён стварыў у Казлоўшчыне Камітэт Беларусізацыі Праваслаўнай царквы з якім супрацоўнічалі святары Алексіевіч, Данілюк і іншыя. На занятках па рэлігіі ў польскіх пачатковых школах для праваслаўных вучняў яны пачалі выкладаць беларускую мову пад выглядам навучання іх чытанню рэлігійных кніг, якія друкаваліся кірыліцаю. Для гэтага завезлі з Вільні беларускія лемантары і чытанкі. Распаўсюджвалі беларускі акафіст "Што трэба рабіць кожнаму беларусу?" Казанні ў царкве адбываліся на беларускай мове. Аказвалі шырокую падтрымку Таварыству беларускай школы па адкрыццю беларускіх школ у рэгіёне. На працягу месяца, з пачатку навучальнага 1924 года, было заснавана 18 беларускіх школ. Польскія ўлады спачатку абмяжоўваліся толькі запалохваннем сялянбацькоў карамі. Але праз месяц пачалі накладваць на іх штрафы. Калі і гэта не дапамагло, польскія паліцыянты зрабілі набег на школы і арыштавалі беларускіх настаўнікаў: Пятліцкую (в. Пятралявічы), Надзею Капітончык (в. Вішава), Марыю Белавусаву (в. Лядзіны), Шундрык, Тарасюк, Кухту, Гародку і іншых. Паадбіралі беларускія падручнікі, паарыштоўвалі нават некаторых солтысаў за тое, што яны дазвалялі рабіць сельскія сходы, дзе сяляне пастанаўлялі адчыніць беларускую школу. Каморнікі, якія спрабавалі спагнаць накладзеныя на сялян штрафы, сустрэліся з узброеным адпорам. У вёскі было накіравана войска. Скончылася тым, што штрафы, накладзеныя на сялян, скасавалі, але некаторых настаўнікаў засудзілі ад шасці месяцаў да года турмы за "нелегальнае" навучанне на беларускай мове.

У Парэччы адкрыць беларускую школу не ўдалося. Каб даць адпор рэлігійнаму ўціску і стрымаць паланізацыю, Данілюк разам з жонкаю Марыяй і псаломшчыкам Ігнатам Стэльмашком, арганізавалі царкоўны хор, на якім, апрача рэлігійных спеваў, развучваліся беларускія народныя песні. Асабліва яны ўражвалі, калі гучалі ў выкананні самога святара. Хор стаў цэнтрам духоўнага жыцця вёскі. На спеўкі збіралася многа вясковай моладзі, развучваліся розныя беларускія танцы, як "Кадрыль" , "Лысы", "Крыжачок", "Мікіта", "Выйду на рэчаньку", вальсы, полькі і іншыя. Яшчэ і сёння гучаць на Слонімшчыне беларускія псалмы, якія тады выконваліся пры адпяванні памерлых і на саракавінах.

### ПСАЛОМ НАД ПАМЕРЛЫМ

*Ой, Божа, мой Божа!*
*З высокага неба пачуй ты малітву маю!*
*Вазьмі маю грэшную душу на неба, а цела ў сырую зямлю.*
*Нагорнуць на мяне высоку магілу, травою яна зарасце,*
*Пасадзяць на яе чырвону каліну, вясною яна зацвіце.*

*І будуць да мяне птушкі лятаці і будуць мне песні спяваць,*
*І я іх пачую,*
*хоць буду ў зямельцы сном беспрабудным ужо спаць.*
*Хацінка маленька: і цёмна, і цесна, і нават аконца няма,*
*А я адзінока, як у полі былінка, ляжу ў той хацінцы адна.*

*Дзетанькі родныя, родзічы мілыя, як цяжка разлучвацца нам,*
*Схіліце галовы к маёй магіле, праліце слязіначку там.*
*Калі ж мае ножкі па свету хадзілі*
*і быў мне той радасны час,*
*Калі мае ручкі так цяжка рабілі, цяпер нежывымі ляжаць.*

*І вас я убачу, і вас я пачую, хоць буду ў магіле ляжаць,*
*Я вечна жыць буду сваёй душою і буду маліцца за вас.*
*І вы не забудзьце за мяне маліцца, прашу я, любімыя, вас,*
*У цэркаў хадзіце, свячу запаліце, то будзе спасенне для нас.*

Хаця ў пачатку студзеня 1928 года Грамада была разгромлена ўрадам Пілсудскага і затым забаронена, а Б. Тарашкевіч, М. Бурсевіч і 490 яе актывістаў былі кінуты ў турмы, нацыянальная свядомасць і вера ва ўласныя сілы беларускага народа былі яшчэ не зламаны. Пра гэта сведчаць вынікі выбараў у польскі Сейм у Заходняй Беларусі ў сакавіку 1928 года. За кандыдатаў ад сялян і рабочых прагаласавала амаль 330 тыс. чалавек, або 26%. Сярод пяці абраных апазіцыйных дэпутатаў –двое былі са Слонімшчыны. Гэта вядомы Ігнат Дварчанін і Павел Крынчык. У Сейме яны ўвайшлі ў радыкальную фракцыю-Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб "Змаганне".

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Сейлавіцкія веранды маюць класічнае выкананне, абавязковым элементам іх з'яўляюцца выразаныя з дошак цацкі, якія, як правіла малююцца ў белы колер. У энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі" на ст. 341 прыведзены здымак веранды з Жыгалак, што ў пяці кіламетрах ад Сейлавіч, то ў Сейлавічах не толькі вялікая колькасць такіх жа адзін да аднаго, а, пашукаўшы, можна знайсці і больш мастацкага выканання.



**Сейлавіцкая веранда.** *Здымак 25. 12. 2001 года.*

Абавязковым элементам сейлавіцкіх хатаў з'яўляецца ***шалёўка*** вакол вокнаў. Тут не кажуць ***ліштвы***. Пад ліштвай разумеюць тонкую дошку. Ліштва можа пайсці на шалёўку, але калі ўжо прыбіта вакол акна, то гэта шалёўка.

Шалёўка абавязкова выконваецца з элементамі дэкору. Пры гэтым у большасці выпадкаў сама шалёўка выконваецца вельмі проста, а зверху прыбіваюцца спецыяльна зробленыя ***"цацкі"***. ***"Цацкі на вокнах"*** – так гэты элемент і называюць. Акяніцы ў Сейлавічах рабілі рэдка. Іх мелі мо колькі хатаў, а з цягам часу і з тых паздымалі. Акяніцы былі мабыць занесены з іншых мясцін і не прыжыліся.

Сейлавіцкі сялянскі двор акрамя хаты ўключае яшчэ шэраг абавязковых элементаў такіх, як плот, хлявы, пограб, студня (не абавязкова), прыбіральня (абавязкова), хлевушкі, паветкі (падпаветкі), парнікі, гаражы і г. д.

Асноўны тып сейлавіцкага двара ад сярэдзіны 20-га стагоддзя вянковы, або сядзібны, гэта калі пабудовы стаяць усе паасобку і групуюцца вакол нейкага ўмоўнага цэнтра. Але і на пачатак 21-га стагоддзя захавалася яшчэ колькі пагонных двароў: гэта калі хата, хлеў, адрына і г. д. выцегнуты ў адну лінію і зведзены пад адну страху. Пагонныя двары ў Сейлавічах захаваліся на тых сядзібах, гаспадары якіх не выязджалі на хутары. Я не памятаю пагонных двароў на хутарах, а па вяртанні то дакладна што ні адзін хутаранец сядзібу па пынцыпу пагоннага двара не ладзіў. Я не бяруся падводзіць нейкую ідэалогію пад такую трансфармацыю сядзібы. Прычыны, як заўсёды эканамічныя. Першая гэта эканомія і зямлі і сродкаў. На вузкіх палосках, калі бацька мусіў думаць, як аддзяліць сына і выдзеліць палоску яму, разгортваць шырокія сядзібы не выпадала. З другога боку пры пагонным двары эканомілі дрэва, менш патрэбна сцены. На хутарах усе праблемы з палоскамі заканчваліся і можна было дзяліцца і будавацца як хочаш. Другая прычына, якую не прынята разглядаць, гэта тая, што канец пагоннай будыніны там, дзе хлявы, рабіўся з горшага дрэва, больш гніў, і пры пераездзе, калі новага дрэва, як правіла не хапала і трэба было дадаваць старое, або і наадварот да старога толькі дадаваць новае, проста не было іншага выйсця, як "адразаць хату", а з гніллём разбірацца потым.

Потым жа на хутары, сярод чыстага поля імкнуліся стварыць нейкую замкнутую прастору, "зацішак", расстаўляючы хлявы, гумны, свірны вакол двара.

На хутарах двор, як правіла быў непраезджым. Пад'езды былі знешнія.

Сейлавіцкі вясковы двор амаль заўсёды мае праезджую частку. Менавіта праезджую, каб можна было заехаць на кані, машыне, трактары. Калі ў сілу нейкіх прычын праезду няма, то павінен быць па'езд з тыльнага боку. Раней, калі былі гумны,то наогул перад гумном была нявораная ніколі пляцоўка, куды можна было і пад'ехаць, і развярнуцца, і каня навязаць. Гэтая пляцоўка называлася ***"пружмень"***. Пры калгасах гумны пазабіралі, а пружмені сталі вялікай раскошай і іх пазаворвалі пад агародчыкі. Чаму тыя пружмені ў памяці, бо былі як бы прадугледжаны для дзіцячых гульняў, і там у маленстве бавілася шмат часу.

Уся плошча, якую займае сялянская сядзіба мае назву ***"пляц"***. Гэтай назве гадоў 500, але аказалася жывучая і дажыла да гэтага часу. "Далі пляц". "Узяў пляц". "Дабіўся пляцу". "Купіў пляц". Але словы ***пляц*** носіць адценне яшчэ незабудаванага ўчастка. Пасля забудовы асноўным словам становіцца ***"хата"***.



**Сейлавіцкае акно.** *Здымак 25. 12. 2001 года.*

Па магчымасці ўвесь сейлавіцкі пляц абносіцца ***плотам***. Зараз платы ў Сейлавічах амаль выключна са ***шчыкетаў***. Раней ужываўся і ***частакол***, і проста ***жэрдкі***. Сейлавіцкі частакол – гэта тое, што па-расейску называюць "плетень". Частакол быў вельмі выгадным для дзяцей. ***Частаколіны*** вельмі ўдала скарыстоўваліся заміж клюшак пры гульні ў хакей. Частаколіну цягнулі з плоту, калі не хапала аргументаў у спрэчцы. Частаколінай нельга было ні забіць, ні пакалечыць, але аперазаць праз спіну можна было спраўна. Сяды тады частаколіну называлі ***паплецінай***, бо частакол ***запляталі***. І само слова ***плот*** паходзіць ад дзеяслова ***плесці***.

Але шчыкетнік, пасля з'яўлення піларамаў пераміг усе віды плоту сваёй рацыяльнасцю. Шчыкетнік бароніць агарод ад курэй і іншай жывёлы, шчыкетнік не заценяе агарод. Праз шчыкеты відно, якія ў якой гаспадыні пасаджаны кветкі. Шчыкеты можна памаляваць, каб было прыгожа.

Двор дзеліцца на дзве часткі; чысцейшая каля хаты, дзе ходзяць людзі, куры, гусі і каля хлявоў, куды летам выпускаюць свіней.



**На сейлавіцкім зрубе.** *Здымак 70-х гадоў.*

На кожным паўнавартасным сялянскім двары 1-2 ***хлявы***. Хлявы, як правіла драўляныя. Да калгасаў былі дакладна падзелены функцыі гумнаў і хлявоў, дзе чаму стаяць, дзе чаму ляжаць. Пасля таго, як гумны пазабіралі функцыі змяшаліся і хлявы пачалі выконваць іх усе, дзе як давядзецца. Хлеў для жывёлы дзеліцца на ***катухі***. Жывёла трымаецца пасобку. Да хлявоў прыбудоўваюцца ***свінухі***, ***курнікі***, ***дрывотня*** і інш.

Разам са знікненнем гумнаў зніклі і ***вазоўні***. Не стала ўласных вазоў.

Але ў 50-я гады знікненне гумнаў не зняло патрэбу малаціць. Таму ў кожнага гаспадара у адным з хлявоў быў ***ток***. Хай невялікі, для аднаго чалавека, але быў. Была ***варыўня***. Не ў кожнага, але была. Варыўня – памяшканне, якое рабілася са столлю і якое прадугледжвалася для абагрэву. Калі не было склепа, то ў варыўні ляжала бульба, буракі. У варыўні гналі самагонку. У варыўню ў вельмі халодную зіму пераганялі свіней, асабліва з парасятамі.

У адным з хлявоў стаяла ***сячкарня***. Сячкарні ў Сейлавічах з'явіліся пры Польшчы. Як правіла яны англійскай сістэмы. На большасці напісана "London", але гэта не значыць, што і рабіліся яны ў Англіі. Рабіліся і Польшчы, і ў той жа Лідзе. Сейлаўцы свае сячкарні некалькі мадэрнізавалі. Калі завод прадугледжваў, што сячкарню будзе круціць адзін чалавек за ручку, то ў Сейлавічах часта ставіўся ***млён***, дышаль да трох метраў даўжынёй, за які бралася 2-3 чалавекі, што давала вялікую выгоду, бо можна было прыпрэгчы да тога млёна дзетвары чалавек чатыры і нашастаць сечкі. Пазней са з'яўленнем электрарухавікоў сячкарні паспяхова круціла і да гэтага часу круціць электрычнасць.

Склепы ў Сейлавічах з'яўляліся паступова. Прычына была ў высокім узроўні грунтовых водаў. На высокіх месцах склепы (у Сейлавічах кажуць ***пограб***) пачалі рабіць раней. Нізіны змаглі дайсці да склепаў толькі пасля меліярацыі і то рабілі іх з невялікім заглыбленнем можа на 0,5 метра, а асноўнае памяшканне бетанавалі над зямлёй, а потым абсыпалі зямлёй і зверху ставілі невялікі зруб.

Слова ***пограб*** прыйшло, мабыць, з польскай, але прыжылося і дало пачатак словам ***прыгрэбіца***, ***пагрэбіца***. Прыгрэбіца невялікае памяшканне (тамбур) перад уваходам у сам пограб. Пад пагрэбіцай трэба разумець гэта тое што над пограбам. Сёння паходжане гэтага слова разумеецца, як ад слова ***грэбці***, ***награбаць лісце і кастрыцу на склеп***, каб не прамярзаў. Хай не правільна, але гэта факт моўнай практыкі. У асобна размешчаных склепах у якасці пагрэбіцы будуецца зруб ці будка з дошак і робіцца стрэшка.

*(Працяг у наст. нумары.)*

